# Т. Л. * З Песень Выгнаньня

*Сібірскія стэпы*

Па Сібіру сумным,
Ад уральскіх гораў,
Разьлягліся стэпы
Роўным дываном.
Ой, чаму вы, стэпы,
Дзікія прасторы,
Зарасьлі так густа
Горкім палыном?

Вось іду па стэпе
Я павольным крокам–
Палыновым пахам
Аддаюць палі...
І куды ні глянеш,
Не акінеш вокам–
Па шырокім стэпе
Толькі ўсё – палыны.

Эх, людзей ня мала
У ліхую замяць
Палягло па стэпе.
Хто тут ня стрываў?!
Гэты стэп шырокі
Змочаны сьлязамі...
Мо' таму й расьце тут
Горкая трава.

Мо' таму і стэпы,
Дзікія прасторы,
Зарасьлі так густа
Горкім палыном.
Па Сібіру сумным,
Ад уральскіх гораў
Разьлягліся стэпы
Роўным дываном.

* * *

Калі стомленае сонца па-над дахам
Шпарка хіліцца за горныя вярхі,
Я выходжу на ружовы захад
Паглядзець на дзіўны небасхіл.

І дзіўлюся доўга сумным вокам
У пурпурова-дзіўны пераліў;
Там, дзе захад сонечны – далёка
Засталіся родныя палі.

І ў ваччу мне мружацца прасторы
Любых ніў над ціхаю ракой,
Над прысадамі пакінуты прыгорак
У блакітным моры васількоў.

Між загонамі квітнеюць сенажаці,
Над ракой – крутыя берагі,
Пад акном – заплаканая маці
Па адзіным сыне дарагім.

Пакідай, матуля, горка плакаць,
Ня губляй пакутлівых надзей!
Веру я, што прыйдзе сьмерць хіжакам,
Іх яна чакае кажны дзень.

Я тады ізноў к табе здаровым
Заяўлюся ў хату ў родны кут.
За сталом за ўласным, за дубовым
Адпачнём ад гора – і пакут.

Сонца стомленае села ўжо за дахам,
Зьнікні ў цемень горныя вярхі,
Я-ж яшчэ дзіўлюся ўсё на захад,
На далёкі, дзіўны небасхіл.

*Разьвітаньне з маленькаю дачкою*

Алеся любая,
Дачушка дарагая,
Што так боязна
Глядзіш ты на мяне?
Сягодня я
Надоўга ад'яжджаю,
А там, – магчыма стрэнемся...
Мо' не...

Я ручкі кволыя
Бяру сваей рукою...
Сягоньня я... – Ты плачаш?–
Перастань!..
Пайду па вуліцы
Пад моцным, пад канвоем,
Твой бацька, Любы твой,
А сяньня – арыштант.

Гляджу я з роспаччу
У вочы дарагія, –
Шкада мне іх –
Маленства праміне.
...Алеся, любая,
Надыйдзе час – другія
Табе няраз раскажуць
Пра мяне.

Цябе, магчыма,
Больш не прыласкаю,
Але ня плач!
Вялікаю расьці!
Пасьля, як вырасьцеш
Вялікая такая,–
Ты ўчуеш шмат
Аб згубленым жыцьці.

Я еду ў край
Такі, што ты й ня сьніла,
Дзе многа, многа
Страшных мерцьвякоў,
Дзе кажны дзень
Капаюцца магілы
Дзеля замучаных,
Зьняволеных бацькоў.

Тады вось там,
Магчыма, на чужыне
З другімі разам
Упаду і я...
Ну, што-ж?... бывай,
Ды толькі ня тужы мне!
Ну, дай руку мне,
Родная мая!

## УДАКЛАДНЕНЬНЕ

У нумары 3-м *Беларускага Часу* на 7-й балонцы, ў артыкуле „З успамінаў" В. Раманчука, падана, што падчас першых выбараў да Польскага Сойму ў 1922-м г. было выбрана разам 17 беларускіх паслоў і сэнатараў. У запраўднасьці беларусы выбралі па свайму сьпіску №16-ы (блёк нацыянальных меньшасьцяў) 11 паслоў і 3 сэнатары, разам 14. Рэшта, трох прадстаўнікоў, якія былі выбраныя беларускімі галасамі ня былі беларусамі. – *Рэдакцыя*

# 25-ы Сакавік у Мічыган

Аддзел БАЗА ў Дэтроіт ладзіў 4-га красавіка 1976 г. урачыстую акадэмію з нагоды 58-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Настаяцель Парафіі Сьвятога Духа БАПЦ ў Іст Дэтроіт, айцец Максім, у саслужэньні з Протадыяканам а. Міхасём Страпко адслужыў малебен з нагоды гэтай гадавіны. Царкоўны хор сьпеваў вельмі прыгожа, а ўсе прысутныя адчулі павагу мамэнту й шчыра маліліся за гэрояў, што злажылі свае жыцьцё ў змаганьні з ворагам, каб *жыла Бацькаўшчына Беларусь*.

Пасьля Богаслужбы ў царкоўнай салі адбылася ўрачыстая акадэмія, на якой прысутнічалі беларусы з Дэтроіту і госьці з Клывэленду, якія спэцыяльна прыехалі на гэты урачысты дзень, каб падкрэсьліць салідарнасьць усіх Беларусаў у іх змаганьні за нацыянальныя вызвольныя ідэалы.

Янка Бруцкі, Старшыня Аддзелу ў Дэтроіт адчыніў акадэмію падкрэсьліваючы вялікае значэньне Акту 25-га Сакавіка для ўсіх беларусаў у вольным сьвеце й на Бацькаўшчыне.

Старшыня Парафіяльнай Рады Спадар Маг. Васіль Плескач прывітаў усіх прысутных на акадэміі, выказаўшы упэўненасьць, што 25-ы Сакавік – Нашая Канстытуцыя будзе стаяць на варце беларускіх дамаганьняў і дапаможа нам перажыць трагічныя мамэнты нашай гісторыі.

Наступна, галоўны дакладчык, Мгр. Мікола Артон, даў зьмястоўны агляд усіх падзеяў, якія давялі да абвешчаньня Акту 25-га Сакавіка. Прэлегент, перад усім, стараўся прааналізаваць значэньне 25-га Сакавіка ў сучасны мамэнт на міжнародным форуме, калі невялічкія афрыканскія народы, прагалошваюць сваю самастойнасьць і дыплёматычна прызнаюцца ўсімі дзяржавамі сьвету. Тымчасам многомільённы беларускі народ і іншыя „сатэлітныя" дзяржавы ня могуць асягнуць гэткага становішча, скінуць ды пазбыцца „апекі старэйшага брата". Аднак, затрымаць натуральны працэс жыцьця, ніякія дэспатычныя й імпэрыялістычныя сілы ня змогуць, як ужо паказалі шматлікія прыклады з гісторыі. Прыйдзе й той дзень, калі аканчальна затрыумфуе дух 25-га Сакавіка й Беларусь будзе поўнапраўным сябрам усіх вольных народаў сьвету.

Пасьля дакладу, ў заімпровізаванай мастацкай частцы, прысутныя прыгожа адсьпевалі некульки беларускіх патрыятычных песьняў, а прысутная на акадэміі Матушка Марыя Войтэнка прадэклямавала памастацку тры вершы на тэму дня.

Наагул, вельмі цікавая праграма поўнасьцю гарманізавала й адказвала вымаганьням нашага Сьвята 25-га Сакавіка. У сяброўскай атмасфэры ўсе правялі час пры абедзе, смачна прыгатаваным жанчынамі Аддзелу БАЗА.

В. П.

# Рэпрэзэнтацыя Беларускіх Жанчын

## НА ВОНКАВЫМ ФОРУМ І ЦАРКОЎНА-ГРАМАДЗКІМ ЖЫЦЬЦІ

### 1. Беларускі Аддзел Дэтроіцкага Музэю

З аказыі *Bicentennial* Куратар Detroit Historical Museum, Mrs. Silva Williams навязала кантакт са Спадарыняй Людай Бакуновіч з прапановай адкрыцьця Беларускай Выстаўкі на сталае існаваньне яе ў Музэі *Renaissance Pavilion*. Адразу пасьля гэтага, Спня. Люда Бакуновіч распачынае пошукі арыгінальных беларускіх экспанатаў. Сама яна ахвяравала найбольш прыгожыя й тыпова-беларускія рэчы зь якімі яна ня лёгка „разьвіталася", бо гэта была сямейная памятка ад сваёй Бабкі, св. памяці Матушкі Філямэны. Таксама былі падараваныя прыгожыя рэчы Спадарынямі Барбарай Сажыц і Валенцінай Мазуро. Беларускія экспанаты былі перададзеныя Куратару Музэю асабіста Сп-мі Людмілай Бакуновіч і Барбарай Сажыц падчас спэцыяльнай урачыстасьці.



*Злева направа: Барбара Сажыц, Таццяна Плескач і Людміла Бакуновіч.*

Цяпер частка „Беларусі" застанецца назаўсёды ў гісторыі Дэтроіцкага музэю, а ўсе наведвальнікі Музэю будуць аглядаць экспанаты беларускага народнага мастацтва ды будуць пашыраць веду аб Беларусі.

*Працяг на 8-й бачынцы*

# ПАСЬВЯЧЭНЬНЯ ПОМНІКА АРХ. СЯРГЕЯ

## У ПЯТУЮ ГАДАВІНУ СЬМЕРЦІ СВ. ПАМЯЦІ АРХІЯПІСКАПА СЯРГЕЯ

# Першаерарха Б.А.П.Ц.

Св. памяці Архіяпіскап Сяргей адыйшоў у вечнасьць 2-га верасьня 1971-га г. Удзел у паховінах Уладыкі Сяргея брала духавенства: беларускай, грэцкай, сэрбскай і украінскай цэркваў.

Пасьвячэньне помніка адбылося 27-га сакавіка 1976-га г., а чын пасьвячэньня выканалі: Прат. Александар, а. Юры, а. Даніла й а. Ільля пры ўдзеле шматлікіх удзельнікаў з Адэляйды й Мэльбурна. На магілу св. памяці Сяргея удзячныя парафіяне злажылі прыгожы вянок з жывых кветак.

Няхай лёгкаю яму будзе аўстралійская зямелька, а памяць аб Ім будзе жыць вечна ў душах і сэрцах удзячнага беларускага народу.

Не забывайма́ся памаліцца за ягоную душу ў дзень ягонае сьмерці 2-га верасьня.

Кансысторыя БАПЦ



*Духавенства й вернікі падчас высьвячэньня помніка.*

# Парафіяльнае Сьвята ў Саборы Св. Кірылы Тураўскага

У нядзелю 16-га травеня сёлета, Парафія Катэдральнага Сабору Св. Кірылы Тураўскага адзначала дзень свайго Патрона. На сьвяткаваньня прыбыў з Канады Высокапрэасьвяшчэнны Архіяпіскап Мікалай, які ачоліў Божую Службу ў саслужэньні Прат. Васіля Кэндыша, Настаяцеля Парафіі, і Настаяцеля Парафіі Жыравіцкай Божае Маці, а. Александра Яноўскага з Гайлэнд Парку, Ню Джэрзі.

А гадзіне 9:30 раніцы, прыбыўшага ў Сабор Уладыку Мікалая вітаў з хлебам і сольлю Старшыня Парафіяльнай Рады Інж. Мікола Гарошка. Неўзабаве пад'ехаў да Сабору аўтабус з Гайлэнд Парку. У Саборы вітаў Уладыку Мікалая Прат. Васіль Кэндыш. Пасьля аблачэньня Уладыкі Мікалая, часы прачытаў Стараста Міхась Міцкевіч. Затым Уладыка пасьвяціў нованабытае напрастольнае Эвангельле. Св. Літургія служылася вельмі ўрачыста й надхнёна пры поўным складзе харыстых з Ню Ёрку й Гайлэнд Парку, Н. Дж., пад кіраўніцтвам Рэгента Сп. Міхася Тулейкі.

Прыгожае й зьмястоўнае слова сказаў Уладыка Архіяпіскап Мікалай, якое глыбока закранула сэрцы прысутных. Малебнам і многалецьцем закончылася служба.

Усе прысутныя на Службе Божай потым перайшлі да царкоўнай салі, гдзе сяброўкі парафіяльнага Сястрыцтва, Спадарыні: Валентына Яновіч, Марыя Верабей і Галіна Яновіч, падрыхтавалі багаты й смачны абед. Пасьля прапяяньня „Ойча Наш" Уладыка Мікалай благаславіў пастаўленыя на сталы стравы ды распачаўся абед. Падчас абеду распачаліся прамовы.

Першым прамоўцам быў Прат. Васіль Кэндыш, Настаяцель Сабору Св. Кірылы Тураўскага. Пасьля прывітаньня Уладыкі Мікалая, а. Александра й парахвіянаў з Гайлэнд Парку, гасьцей ды парафіянаў свайго Прыходу, а. Васіль падкрэсьліў вялікае значэньне ладжаньня супольных сьвяткаваньняў, як з пункту гледжаньня рэлігійнага так і грамадзка-беларускага.

Наступны прамоўца, Сп. Інж. Мікола Гарошка, Старшыня Парафіяльнай Рады Парафіі Катэдральнага Сабору Св. Кірылы Тураўскага, горача павітаў Архіяпіскапа Мікалая, а. Александра, Старшыню Парафіяльнай Рады Прыходу Жыравіцкай Божай Маці, Спадара Аўгена Лысюка, гасьцей ды ўсех парафіянаў абодвых прыходаў. Далей прамоўца зазначыў, што сёлетняе парахвіяльнае сьвята, здаецца, ёсьць больш урачыстым, ды больш многакалькасным. Далей Сп. Гарошка сказаў некулькі слоў аб жыцьці й дзейнасьці Св. Кірылы Тураўскага, зьвертаючы ўвагу, перадусім, на Ягоны вельмі высокі ўзровень этычна-рэлігійнага жыцьця ды як на найбольшага ў эпоху сярэднявечча беларускага літэратураведалірыка, рэлігійнага пісьменьніка, філёзафа, вялікага майстра слова, аўтара многіх малітваў, словапропаведзяў і аднаго канона.

Старшыня Парафіяльнай Рады Жыравіцкай Божай Маці, Спадар Лысюк Аўген, павітаў Архіяпіскапа Мікалая, Прат. В. Кэндыша, а. Александра, усіх парафіянаў і гасьцей ды пажадаў як найлепшых вынікаў у працы для Парафіі Св. Кірылы Тураўскага ў Ню Ерку. Канчаючы сваю прамову, Спадар А. Лысюк прасіў усіх, хто толькі можа, прыняць удзел у супольным сьвяткаваньні нашага Юбілейнага Сьвята – 25-ці годзьдзя ад заснаваньня прыходу Жыравіцкай Божай Маці ў Гайлэнд Парку, якое адбудзецца 23-га травеня гэтага году.

Парафіянін Др. Вітаўт Кіпель гаварыў аб падрыхтаваўчых працах для Беларускага Фэстывалю, які адбудзецца ў Ню Джэрзі 12-га чырвеня г.г. ды заклікаў да масавага удзелу ў гэтай культурнай імпрэзе беларусаў.

Сп. Маг. Мікалай Кунцэвіч вітаў духавенства й вернікаў БАПЦ з Парафіяльным Сьвятам Св. Кірылы Тураўскага ад Аддзелу БАЗА ў Ню Ёрку.

Наступным прамаўляў Уладыка Архіяпіскап Мікалай, які падкрэсьліў, што Царква зьяўляецца душою народа, якую трэба ушляхетняць і мацаваць. Усім беларусам трэба гуртавацца вакол сваёй Беларускай Праваслаўнай Аўтакуфальнай Царквы, як гэта робяць усе іншыя народы. Пры цэрквах праводзіцца й уся нацыянальная праца. Для нас свая царква гэта – вялікая Божая ласка. Пры Божай дапамозе БАПЦ ўтрымоўваецца й пашырае сваю працу. Хто ня мае магчымасьці памагчы сваёю працаю, хай прыйдзе з дапамогаю матар'яльнаю.

БАПЦ ў пэрыяд свайго арганізацыйнага жыцьця мела многа прыкрасьцяў і многа розных перашкодаў з боку Расейскай Зарубежнай Царквы. Аднак, нягледзячы на ўсе перашкоды, нашая БАПЦ ўзмацавалася, й дзякуючы ахвярнасьці ўсяго беларускага духавенства ахапіла значную частку беларускіх вернікаў і сяньня задаваляе духова-рэлігійныя іхнія патрэбы. БАПЦ мае на сёньня матар'яльную уласнасьць, пераважна, ў форме нярухомасьцяў.

Уладыка заклікаў усіх парафіянаў да стойкасьці й працы на шляху да далейшай разбудовы свае БАПЦ. Старшыня Парафіяльнай Рады выказаў шчырую падзяку сяброўкам сястрыцтва Валенціне Яновіч, Марыі Верабей і Галіне Яновіч за ахвярную працу пры падрыхтаваньні смачнага абеду. Асаблівая падзяка належыцца Валі Яновіч як арганізатару прыняцьця наагул.

На заканчэньне Старшыня Парафіяльнай Рады, М. Гарошка, выказаў шчырую падзяку ўсім парафіянам і гасьцям, якія ласкавай сваёй прысутнасьцю падтрымалі нашае вялікае Парафіяльнае Сьвята, а каса Парафіі папоўнілася значным прыбыткам на патрэбы Сабору.

# Парафіяльнае Сьвята Прыходу Жыравіцкае Божае Маці

**Гайлэнд Парк, Н. Дж.**

Парахвіяльнае Сьвята Жыравіцкае Божае Маці адзначалася ў гэтым годзе 23-га травеня ды было спалучана з 25-ці годдзем заснаваньня Парафіі. На гэтае сьвята прыбыў з Канады й ачоліў Божую Службу Уладыка Архіяпіскап Мікалай, ў саслужэньні Прат. Васіля Кэндыша, а. Александра Яноўскага й Іпадыяканаў Лявона Войтэнкі й Антона Сільвановіча. Перад царквою спаткаў Уладыку, сябра Парафіяльнай Рады, Сп. Васіль Стома. У царкве вітаў Уладыку Настаяцель Прыходу а. Александар Яноўскі. Юрка Драздоўскі прачытаў часы. Папоўненым хорам кіраваў рэгэнт Катэдральнага Сабору ў Ню Ерку Спадар Міхась Тулейка.

Пасьля Сьвятое Літургіі быў адслужаны Малебен да найсьвяцейшае Жыравіцкае Божае Маці. Падчас Малебна супольна з духавенствам БАПЦ маліўся й Архімандрыт Язэп з суседняй парафіі Сьв. Эфрасініі Полацкай ў Саўт Рівэр. Гэтая падзея была прыемна спатканая ўсімі, як братэрскае супольнае маленьне беларускага праваслаўнага духавенства.



*Малебен*

Пасьля заканчэньня Службы Божае духавенства й вернікі перайшлі ў салю парафіі на супольны абед падрыхтаваны сястрыцтвам.

Старшыня Парафіі Сп. А. Лысюк прывітаў Арх. Мікалая, Архімандрыта Язэпа, а. Васіля й а. Александра, усіх гасьцей і парафіянаў з 25-ці годным Юбілеям жыцьця Парафіі ды з парахвіяльным сьвятам.

Прат. Васіль Кэндыш павітаў Парафію Жыравіцкай Божай Маці ад Кансысторыі БАПЦ. Па сваёй ахвярнасьці й працы Парафія ў Гайлэнд Парку лічыцца аднэй з першай – БАПЦ. Старшыня Парафіяльнай Рады ў Ню Ёрку Сп. Інж. М. Гарошка, вітаючы Духавенства БАПЦ, вернікаў і гасьцей з 25-ці годдзем жыцьця Парафіі Жыравіцкай Божай Маці, коратка ўспомніў гісторыю зьяўленьня цудоўнага вобразу Сьвятое Дзевы Марыі (1470 год), праваслаўны Род Солтанаў які быў уласьнікам тагачасных Жыравіцаў. Жыравіцы сталіся местам паломніцтва для ўсяго беларускага народу, а цудоўная Ікона Жыравіцкай Божай Маці сталася сымбалам нязломнай веры ў лепшую будучыню нашага народу.

Сп. Сяргей Гутырчык вітаў Парафію ад імя Аддзелу БАЗА й ад Беларускіх Вэтэранаў на штат Ню Джэрзі.

У міжчасе выступіў жаночы „квінтэт" у складзе Спадарынь: Др. Гаі Тэдон, Др. Алы Орса-Рамано, Веры Бартуль, Веры Заморскай і Галіны Орса, якія вельмі добра выканалі наступныя песьні: (1) Мова Родная – муз. Міколы Куліковіча, (2) народныя песьні і (3) Лявоніху, – муз. Туранкова.

Сп. Васіль Стома з нагоды Юбілейнага Сьвята Парафіі прачытаў кароткі й вельмі зьмястоўны рэфэрат аб жыцьці й дзейнасьці Парафіі ў Гайлэнд Парку. Афіцыяльнай датай паўстаньня парафіі, Сп. Стома лічыць, дату 12-га жніўня 1951-га г. Прыезд з Эўропы Прат. Сьцяпана Войтэнка з сынам Мікалаем, удзельнікамі Сабору ў Канстанцы, на якім, як ведама, адбылося аднаўленьня БАПЦ, спрычынілася да хуткага заснаваньня Прыходу. Царкоўным хорам кіраваў Спадар Філарэт Родзька і вучыў дзяцей беларускай мовы. Царкву й царкоўны будынак парафіяне купілі ў 1963-м годзе; да гэтага часу на працягу 12-гадоў Парафія Жыравіцкай Божай Маці сьпярша месьцілася ў Прэзьбітэрыянскай царкве, а потым у мадзярскай Рэфармаванай Царкве. Сп. Васіль Стома выказаў вялікі жаль, што сяньня ў гэткі ўрачысты дзень ня мог быць з намі рэгэнт нашае парафіі Спадар Філарэт Родзька, які цяпер паважна хворы, ды пажадаў яму хуткае паправы.

Уладыка вобразна параўняў БеларускуюАўтакефальнуюПраваслаўную Царкву да залаціснага вялікага поля ў часе жніва. „Гэтая нашая ніва патрабуе як кіраўнікоў-пастыраў, таксама больш парафіян-работнікаў", казаў Уладыка Мікалай.

„Каждая Парафія гэта – асобная ніва й каждая праца патрэбная да жыцьця Парафіі павінна сваечасова й належна быць зроблена." „Нашая нацыянальная й рэлігійная праца ў вольным сьвеце можа прычыніцца да палепшаньня паложаньня нашага народу на Бацькаўшчыне. Як прыклад, можна прыгадаць, пастаўленьне Архіяпіскапа Антонія Менскага – Мітрапалітам. У гэткім выпадку толькі існаваньне Мітраполіі ў краінах вольнага сьвету прычынілася да паднесяньня Япіскапату да стопня Мітраполіі." казаў Архіяпіскап Уладыка Мікалай.

---

✝ Сьвятой памяці

## МАРТА ЛУК'ЯНЧУК

Першага красавіка сёлета, пасьля доўгага змаганьня з цяжкою хваробаю, адыйшла ў вечнасьць на 64-м годзе свайго працавітага жыцьця, Марта Лук'янчук.

Пакойная адзначалася ціхім і лагодным характарам, была вернаю сужонкаю, добраю і прыкладнаю маткаю. Будучы глыбока-рэлігійнаю, яна ня толькі належала да БАПЦаркви ад самага пачатку яе заснаваньня, але й шмат чым спрычынілася для развою яе. Дзяцей сваіх узгадавала ў хрысьціянскай маралі на добрых і сьведамых Беларусаў, ды дбала каб даць ім належную асьвету.

Пахаваная пры лічным ўдзеле родных і знаёмых у Кліўлендзе на магільніку Рывэр Сайд.

Як пасьля паховінаў, так і ў 40-вы дзень сьмерці сям'ёю пакойнай былі прыгатаваныя памінальныя абеды, на якіх прысутныя ўспаміналі аб прыкладным жыцьці пакойнай, як ў сям'і, так і сярод Беларускага грамадзтва.

Вечная памяць табе Дарагая Парафіянка! Няхай Госпад Бог аселіць тваю Душу, дзе спачываюць ўсе праведнікі!

---

Заміж кветак на сьвежую магілу Алеся Грыцука, 25 даляраў складае на выдавецкі фонд газэты *ЧАС* ды выказвае глыбокае спачуваньне Олі й Юльянцы

Сям'я Сурвілаў

---

З пэўных тэхнічных перашкодаў №4 газэты *БЕЛАРУСКІ ЧАС* выходзіць са спазьненьнем.

Рэдакцыя

# Рэпрэзэнтацыя Жанчын

*Працяг з 6-й бачынкі*

### 2. Беларуская Куцьця

Беларуская *КУЦЬЦЯ* на Дэтроіцкай галоўнай тэлевізыйнай станцыі CBS, на праграме „Christmas in Other Lands" была надзвычайным сукцэсам. Сп. Сп. Янка Бруцкі, Людміла Бакуновіч, Даніла Мазуро, і Барбара Сажыц адыгралі сцэну нашае традыцыйнае куцьці: на покуці ікона, пакрытая вышываным ручніком, на сьценах тканыя дзяружкі. Стол засланы сенам і абрусом на якім знаходзілася дванаццаць патраваў прыгожа й смачна прыгатаваных пры дапамозе Бабкі М. Мазурай і Л. Бакуновіч. Пасьля выгляданьня праз вакно на „першую" зорку, „Сям'я" памаліўшыся засела за стол спажываць *КУЦЬЦЮ*. На фронце экрану відаць быў надпіс „КУЦЬЦЯ". Тэкст для нарратара пад загалоўкам: „КУЦЬЦЯ" на Беларусі быў напісаны пабеларуску Барбарай Сажыц з ангельскім перакладам і прыгожым апрацаваньнем — Людмілай Бакуновіч. Шмат было ўложана працы, каб асягнуць як найбольшы сукцэс сярод іншых нацыянальнасьцяў, і хоць беларусы Дэтройту не маглі паказаць вялікага хору ці шмат удзельнікаў на сцэне, аднак нашая прыгожая інсцэнізацыя „КУЦЬЦІ" зрабіла вялікае ўражаньне на гледачоў, аб чым сьведчылі энтузыястычныя й прыхільныя водгукі. Таксама не магу абмінуць таго, што пасьля фільмаваньня „КУЦЬЦІ", увесь *staff* тэлевізыйнае станцыі сабраўся каля нас і ўсе частаваліся нашымі прысмакамі, а кампліментам ня было канца.

Запрасілі, нарэшце, нас і паказалі ўсю станцыю, а так сама прасілі прысутнічаць на перадачы *NEWS*. Тут асаблівая падзяка належыцца Спадарыні Людміле Бакуновіч, якая маючы маладую сямью так многа й шчыра працуе для дабра нашае Парафіі й Грамадзтва.

### 3. Калядныя Ялінкі

Калядныя ялінкі для дзяцей адбываюцца ў Дэтройце што-году. Ставяцца сцэнкі; рэпэртуар — „Каляды" ды іншы традыцыйна беларускі. Выканаўцы: дзеці Спадарства Бакуновічаў, Кумейшаў, Гарбачовых ды іншых, якія ўдала выконваюць свае ролі. Пастаноўкамі кіруе Спадарыня Людміла Бакуновіч і Барбара Сажыц. І тут ня раз, на радасьць нам даведваемся ад іншых, што беларускія ялінкі найлепшыя.

### 4. Парафіяльныя Сьвяты

Удзел нашых жанчынаў у ладжаньні парафіяльных сьвятаў ды арганізацыі іншых царкоўных і грамадзкіх імпрэзаў вельмі значны. Ніякае паважнейшае зарганізаванае грамадзкае здарэньне не адбываецца бяз удзелу нашых жанчынаў. Жанчыны апекуюцца ня толькі эстэтычным выглядам свае царквы, але дапамагаюць пры набыцьці неабходнага царкоўнага інвэнтара.

Асаблівая падзяка належыць Спадарыні Клары Кумейша за пашыцьцё двух аблачэньняў айцу Максіму, а таксама пакрыцьцяў на аналоі. Перад Вялікоднымі Сьвятамі мы упрыгожылі нашую царкву спэцыяльна выпісанымі з Грэцыі: Запрастольным Крыжам, Дарахранільніцай, падсьвечнікамі й рыпідамі дзякуючы ахвярнасьці Спадарыні Шэлест з Каліфорніі, у памяць ейных бацькоў, і Матушкі Марыі Войтэнка, у памяць а. Віктара. Як ведама, у Дэтройце працуе вельмі прыгожы хор, а ў гэтай справе належыцца асаблівая па дзяка нашай сяброўцы Спадарыні Тацьяне Плескач, якая дапамагае нашаму Псаломшчыку Сп. Інж. Янку Бруцкаму ў кіраваньні хорам.

Прыемна было гасьціць у нас, падчас Вялікодных Сьвятаў, Матушку Марыю Войтэнка, якая памагала нам і ў хоры сьпеваць, ахвярамі й парадамі: за ўсё гэта належыць ад нас усіх Матушцы як найшчырэйшая падзяка.

В. Наваградзкая

# Коопэрацыя ў Заходняй Беларусі

### МАЛАЧАРСКАЕ ТАВАРЫСТВА



*Інж. Пётра Орса*

Трансформацыя коопэратыўнай ідэі, якая маець сваё абаснаваньне ў самапомачы, ды ідэалізацыі коопэратыўных мэтадаў працы над іншымі гаспадарскімі й эканамічнымі формамі людской дзейнасьці, ёсьць аснаўным заданьнем каждай коопэрацыі.

Коопэратыўная ідэя мела вельмі спрыяльныя магчымасьці для свайго разьвіцьця ў Заходняй Беларусі але, дзякуючы малай зацікаўленасьці акупацыйных уладаў коопэратыўным рухам, ў гэтым кірунку, блізу нічога, не рабілася.

Густая сетка спажывецкіх і малачарскіх коопэратываў, якая паўстала па ініцыятыве польскай адміністрацыі пасьля 1919-га году хутка заламалася ў сваёй дзейнасьці й самазліквідавалася. Гэткі тып коопэрацыі пазьней называлі „казённай коопэрацыяй."

Галоўнай прычынай занепаду польскай коопэрацыі на тэрыторыі Заходняй Беларусі было неразуменьне самой істоты коопэрацыі. Яны глядзелі на коопэратыў як на „крамку", а не як на сынтэз матар'яльных і духова-маральных сілаў; ім не ўдалося, нарэшце, знайсьці людзей ідэйна вытрыманых, бескарысных і сьведамых коопэратараў.

У 1932-м годзе па заканчэньні вышэйшых аграномічных студый у Празе Чэскай Інж. Пётра Орса й Інж. Міхась Гузоўскі засноўваюць Беларускае Малачарскае Таварыства ў Баранавічах. Яны абодва з вялікім запалам, як калісь Рочдэльскія рабочыя, бяруцца за цяжкую і адказную працу.

Для беларускіх спэцыялістаў коопэрацыя ўжо ня была „крамкай"; коопэратыў для іх быў кузьняй для узгадаваньня іншага, поўнага чалавека, духова вольнага, нацыянальна сьведамага, спажыўца й прадуцэнта.

Малачарскае Таварыства ў хуткім часе ўжо мела 14 добра зарганізаваных коопэратываў, аснашчаных спэцыяльнымі новымі мадэрнымі машынамі з галіны малачарства. Коопэратывы Малачарскага Таварыства існавалі: у Баранавіцкім, Ляхавіцкім, Лідскім, і Нясьвіскім паветах.

Гадавы абарот Малачарскага Таварыства, апошнія гады ўжо перавышаў 500 тысяч польскіх злотых.

Інж. Міхась Гузоўскі пазьней перайшоў да спажывецкай коопэрацыі, гдзе заснаваў сыраварскі аддзел.

Інж. Пётра Орса й Інж. М. Гузоўскі былі вучнямі вядомага ў Эўропе Праф. Ляксы. З ягонай школы выходзілі высока-кваліфікаваныя спэцыялісты з галіны тэхналёгіі малака.

Прафэсўр Лякса, паміж іншым, прапанаваў Інж. П. Орсе кафэдру асыстэнта малачарства пры Чэскай Палітэхніцы ў Празе.

Пасьля заканчэньня сваіх студый на працугу сямі месяцаў,Інж. П. Орса працуе ў Пардубіцах ў спэцыяльнай малачарскай фарме, гдзе паглыбляў свае веды ў галіне тэхналёгіі малака.

Інж. М. Гарошка

# БЕЛАРУСКІ ФЭСТЫВАЛЬ

Дзьвенаццатага чырвеня 1976 г. з нагоды 200-хсот годзьдзя гісторыі ЗША адбыўся фэстываль беларускай культуры й народнага мастацтва ў Голмдэл, Ню Джэрзі, ў спэцыяльным тэатры й цэнтры для больших імпрэзаў. Арганізатарам фэстывалю быў штат Ню Джэрзі, ініцыятарам фэстывалю й Старшынёю Фэстывальнага Камітэту быў Др. Вітаўт Кіпель, каторы ў найбольшым стопню прычыніўся да вялікага сукцэсу фэстывалю. На фэстывалі прысутнічала да трох тысячаў беларусаў і гасьцей.

Ад 10-й гадзіны раніцы папулярная выстаўка беларускага народнага мастацтва. Вялікі й багаты буфэт беларускіх нацыянальных стравaў.

Трохгадзінны канцэрт пачаўся а 3-й гадзіне па паўдні пры ўдзеле, прыблізна, 150 выканаўцаў з ЗША й Канады. Выступалі вядомыя беларускія салісты, як Пётра Конюх, Мікола Стрэчань і Ірэна Каляда.



*Пётра Конюх*

# Першы Сабор

*Працяг з 5-й бачынкі*

грамадзкім жыцьці. „Свабода й жыцьцё чалавека непадзельна палучаны паміж сабою: яны ёсьць Дарам Божым", часта казаў Др. Віктар Войтэнка. Ён моцна верыў, што адроджаная й свабодная БАПЦ прынясе нам ня толькі рэлігійную свабоду, але й палітычную. У апошнія гады свайго жыцьця Др. Войтэнка прыняў сан сьвятарства БАПЦ, ды ўжо як сьвяшчэньнік многа зрабіў для дабра БАПЦ.

М. Г.

---

### Св. Памяці Мгр. АЛЕСЬ ГРЫЦУК

Мгр. Алесь Грыцук, сакратар-скарбнік Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Канадзе, адыйшоў у вечны спачын 30-га травеня 1976 году ў Кінгстон, Онтаріо, аб чым з сумам паведамляе ды выказвае глыбокае спачуваньне яго сям'і

Управа Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Канадзе

---

### Св. Памяці Др. ЯНКА СТАНКЕВІЧ

*Выдатны навуковец, мовавед, перакладчык Біблії й Новага Запавету ў беларускую мову, Рэдактар часапісу* ВЕДА, *пасол да сойму, лектар беларускай мовы ў Віленскім Унівэрсытэце, памёр 16-га ліпеня 1976-га г. ў Гаўторн, Ню Джэрзі; пахаваны на беларускіх могілках у Ню Брансвіку 19-га ліпеня 1976 г. Рэдакцыя газэты* Б. ЧАС *з глыбокім сумам выказвае сваё шчырае спачуваньне сямьі нябошчыка.*

*Рэдакцыя*

---

# Лісты ў Рэдакцыю

Вельмі Паважаны Сп. Рэдактар!

У №3 газэты *ЧАС*, за сакавік 1976-га г., быў зьмешчаны артыкул В. Раманчука „З успамінаў" у якім, між іншым, сказана, што ў 1920-м годзе ў Клецку была зарганізавана Клецкая Коэдукацыйная Беларуская Гімназія, што не адпавядае запраўднасьці.

Клецкая Беларуская Гімназія была зарганізавана й пачала сваю працу ў 1923-м годзе ў Нясьвіжы, гдзе праіснавала толькі адзін год. З недахопу адпаведнага памешканьня, у наступным 1924-м годзе, была перанесена ў Клецак.

З пашанай, М. С.